# наша СВАБОДА

№65(152) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

22 ЧЭРВЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


**ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!**

**Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.**

**Наш падпісны індэкс – 63478**

*60 гадоў таму 22 чэрвеня 1941 года пачалася Вялікая Айчынная вайна. За першыя трагічныя месяцы баявых дзеянняў, абараняючы нашу зямлю, загінула 500 тысяч салдат і афіцэраў. Больш за 400 тысяч патрапілі ў нямецкі палон і нямногія з яго вярнуліся. А наперадзе былі жахлівыя гады, калі палілі вёскі з людзьмі, руйнаваліся гарады, вынішчаліся людзі.*

*Вечная памяць тым, хто загінуў, і вечная слава тым, хто ахвяраваў жыццё дзеля перамогі!*

## Домаш уступае ў барацьбу

Сямён Домаш, адзін з пяцёркі дэмакратычных кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі, з нагоды пачатку выбарчай кампаніі наладзіў у сваёй штаб-кватэры на вуліцы Варвашэні дэбютную прэс-канферэнцыю. Цікавасць да яе праявілі амаль што ўсе асноўныя газеты Беларусі і тэлеканалы Расіі. Сямён Домаш заявіў, што хутка будуць апублікаваныя новыя сведчанні існавання ў нашай краіне «эскадронаў смерці» і новыя факты аб знікнуўшых людзях. Ён таксама запрасіў да сябе ў госці ўсіх прысутных журналістаў з тым, каб яны агледзелі ягоны дом, які афіцыйная прапаганда падае ў сваіх сродках інфармацыі не інакш як «палац», адмоўна ацаніў уступленне ў передвыбарную барацьбу Зянона Пазьняка і выступіў з рэзкай крытыкай амаль што ўсіх кандыдатаў у прэзідэнты.

**Аляксандар ДУБРАВІН**

# «Дорогие мои москвичи!»

## *Перадвыбарныя спевы заезджага гастралёра*

*Учора скончылася двухдзённая паездка ў Маскву патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Падчас падарожжа патэнцыйны кандыдат быў заўважаны ў выкананні папулярных расійскіх песень, сярод якіх – «Дорогие мои москвичи!» (вык. Вахтанг Кікабідзе) і «Сами мы не местные, помогите, чем сможете» (вык. група «Ногу Свело»).*



Непрыемнасці пачаліся адразу пасля прылёту А.Лукашэнкі ў Маскву. У аэрапорце «Внуково-2» яго сустракаў не прэзідэнт, не прэм'ер-міністр і нават не віцэ-прэм'ер, а міністр па падатках і зборах Генадзь Букаеў. Расійская газета «Коммерсантъ» адзначае, што калі У.Пуцін апошні раз прыязджаў у Мінск, то А.Лукашэнка не толькі праводзіў дарагога госця да самалёта, але нават падняўся на яго борт, што, як адзначае газета, з'яўляецца парушэннем пратакола.

Перад ад'ездам у Маскву А.Лукашэнка збіраўся абмеркаваць з сваім расійскім калегам «прычыны невыканання саюзных беларуска-расійскіх дамоўленасцяў». Каб падсалодзіць горкую пілюлю, тут жа беларускі кіраўнік выказаў Расіі ўдзячнасць: «У Беларусі ўдзячныя за тое, што побач заўсёды быў рускі чалавек».

Расійскія СМІ адзначаюць: прыём А.Лукашэнкі прэзідэнтам Расіі не даў таму адназначнага адказу аб падтрымцы на выбарах. Уладзімір Пуцін толькі холадна-ветліва папытаўся пра ходу передвыбарнай кампаніі ў Беларусі, не выказаўшы ні вялікай занепакоенасці, ні адкрытай падтрымкі беларускаму калегу. А.Лукашэнку засталося толькі заявіць: «Народ Беларусі разумее, што Расія не падставіць саюзнікаў». У.Пуцін прамаўчаў.

Потым Аляксандру Лукашэнку выпала размаўляць з расійскім прэм'ер-міністрам Міхаілам Касьянавым. Як вядома, усяго два тыдні таму беларускі кіраўнік у Гродне абвінавачваў гэтага суразмоўцу ва ўсіх смяротных грахах, але асабліва – за сабатаж беларуска-расійскіх дамоўленасцяў.

Пры асабістай сустрэчы, аднак, А.Лукашэнка не асмеліўся паўтарыць сваё абвінавачванне, мусіць, самаму вядомаму прадстаўніку «сонцаўскіх». Інфармацыйныя агенцтвы нейтральна паведамляюць, што падчас сустрэчы абмяркоўваліся «перспектывы развіцця Саюзнай дзяржавы і пытанні развіцця двухбаковага эканамічнага супрацоўніцтва».

Але праблема застаецца: Расія цяпер плануе рэзка знізіць падатак на прыбытак і такім чынам стаць краінай з вельмі ліберальнай падатковай сістэмай. Раней у Расіі ўжо быў зніжаны падаходны падатак — 13% для усіх групаў насельніцтва.

Беларусі неабходна прымаць адэкватныя захады, каб не адстаць ад партнёра па Саюзе. Гэта значыць, што беларускім уладам неабходна добраахвотна адмовіцца ад вялікай часткі грошай, што паступаюць цяпер у бюджэт. Гэтага нельга рабіць – бюджэт у сённяшнім выглядзе гэтага проста не вытрымае; гэтага нельга не рабіць – інакш прыйдзецца афіцыйна прызнаць, што Саюзнай дзяржаве кранты.

*Заканчэнне на стар.3*

## Зварот КДБ

20 чэрвеня па інтэрнэце быў распаўсюджаны ананімны зварот групы афіцэраў КДБ. У звароце грамадзяне Беларусі папярэджваюцца пра тое, што з мэтай дыскрэдытацыі альтэрнатыўных Лукашэнку кандыдатаў рыхтуюцца выбухі жылых дамоў і забойствы шэрагу «няўгодных ужо зараз» кіраўнікоў дзяржорганаў.

## Пазьняк пад следствам

Як паведамілі ініцыятыўный групе лідэра КХП-БНФ Зянона Пазьняка на прэзідэнцкіх выбарах, крымінальная справа супраць яго не закрытая. Яна толькі прыпыненая, бо З.Пазьняк перабывае за мяжой. Нагадаем, што справа была заведзеная ў 1997 годзе па фактах публікацыяў у газетах «Пагоня» і «Свабода», якія нібыта распальваюць нацыянальную варожасць і зневажаюць гонар і годнасць рускага народа. Калі палітык вернецца, яго мусяць дапытаць. Сам З.Пазьняк кажа, што вернецца пры ўмовах гарантаванай уладамі яго бяспекі.

## Не стрымаць

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першы тыдзень чэрвеня рост спажывецкіх коштаў у краіне склаў 1,2%. Усяго з пачатку года спажывецкія кошты ў Беларусі ўзраслі на 21,3%.

## Зводны бібліятэчны каталог

Да канца года мяркуецца завершыць стварэнне зводнага электроннага каталога самых буйных бібліятэк Беларусі. Сэнс яго ў тым, што адна бібліятэка апрацоўвае навінкі літаратуры, а ўсе іншыя могуць гэтым карыстацца. Як паведаміла дырэктарка Нацыянальнай бібліятэкі Галіна Алейнік, напачатку 2002 года гэты каталог павінен быць даступным у інтэрнэце.

## Мост цераз Бярэзіну

У Бабруйску ўзводзіцца мост цераз раку Бярэзіну. Ён будзе мець даўжыню 400 метраў, шырыня кожнай з дзвюх праезных частак складзе 9,5 метра, а ходнікаў — 2,25 метра. Гэты мост цераз Бярэзіну стане ў горадзе другім. Пасля яго ўзвядзення на капітальны рамонт будзе закрыты першы мост.

## «Цэнтральны» запрацуе праз год

Адкрыццё сталічнага кінатэатра «Цэнтральны», які зараз знаходзіцца на рэканструкцыі, запланавана праз год – 1 ліпеня 2002 года. Ён будзе аднаўлены ў тым выглядзе, які меў у 1956 годзе. У кінатэатры з'явяцца мяккія тэатральныя крэслы і гукавая сістэма «DOLBY».

## У Брэсце ловяць галубоў

Брэст рыхтуецца да сустрэчы шасцідзесяцігоддзя з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У сувязі з гэтым прыводзіцца ў парадак тэрыторыя Брэсцкай крэпасці-героя. Пафарбаваны бардзюры, скошана трава, вывезена смецце, наладжана месца для правядзення грандыёзнага канцэрта, удзельнічаць у якім запрасілі Людмілу Зыкіну, Мусліма Магамаева, Сафію Ратару, Кубанскі хор і групу «ДДТ». Карпусы крэпасці атрымалі новы дах. На жаль, залішне пачуваецца атмасфера музейнасці, што не вельмі спрыяе шырокавядомаму іміджу цытадэлі.

Падчас мерапрыемства 22 і 23 чэрвеня расійскія тэлеканалы, магчыма, будуць весці прамую трансляцыю з крэпасці-героя, таму ёсць вялікая просьба да жыхароў Брэста паспрабаваць выкарыстаць гэтую магчымасць, каб праз расійскі эфір напомніць беларусам пра тое, што сёння ў нашай краіне ідзе спроба стварэння свайго фашызму і адзінае выйсце пазбегнуць гэтага – прагаласаваць за аднаго з дэмакратычных кандыдатаў. Трэба прыйсці на мерапрыемства і, калі атрымаецца, ахвотна, але коратка адказваць на пытанні расійскіх тэлежурналістаў, быць ветлівымі, смелымі і падрыхтаванымі да адказаў.

Між тым, па ўсім Брэсце ловяць галубоў. У адпаведнасці са сцэнарыем, падчас выступлення Аляксандра Лукашэнкі 23 чэрвеня яны будуць выпушчаны ў неба.

**Аляксандар ДУБРАВІН**

## Цэнзурная канфіскацыя

У папярэднім нумары НАША СВАБОДА паведамляла, што падчас вобыска асабістых рэчаў і сталоў журналістаў супрацоўнікі камітэта фінансавых расследаванняў канфіскавалі некалькі налепак у фатографа рэдакцыі. Вось як выглядалі тыя канфіскаваныя без пратакола налепкі. Што зачапіла ў гэтых налепках «фінансавых міліцыянтаў», зразумець цяжка. Былі таксама канфіскаваныя і некалькі карыкатураў, якія робіць для матэрыялаў эканамічнага зместу мастак Л.Разладаў. Уяўленне пра забраныя малюнкі можна атрымаць, адкрыўшы 6 старонку. Рэдакцыя спадзяецца, што забраныя пры вобыску рэчы будуць вернутыя ў рэдакцыю.

**Аддзел інфармацыі**




7 ліпеня 2000 года знік наш калега Дзмітры Завадскі. Хутка год, як ягоная сям'я пазбаўленая бацькі і мужа. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзмітрыя Завадскага і даслаць ахвяраванні на разліковы рахунак Святланы Міхайлаўны Завадскай. Калі ласка, абавязкова пазначайце прызначэнне плацяжу: **АХВЯРАВАННЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА.**

Рэквізіты банка-атрымальніка:
Рахунак для ахвяраванняў у валюце:
PRIORBANK
Minsk V.Horuzhey str.31-A
SWIFT Code: PJCB BY 2X
3134125305029
Атрымальнік: **Sviatlana Zavadskaya**

Рахунак для ахвяраванняў у беларускіх рублях:
Р/р 3134125300011,
**«Пріорбанк» ОАО, код 749**
Атрымальнік: **Святлана Міхайлаўна Завадская.**

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1405**

ІНТЭГРАТАР

## Саюз Беларусі і Расіі – у музей

Як паведаміла агенцтва Інтэрфакс, дзяржсакратару тых званага Саюза Беларусі і Расіі Паўлу Барадзіну прапанавана некалькі варыянтаў размяшчэння ў Маскве саюзных кіраўнічых органаў. Паводле прэс-сакратара П.Барадзіна Івана Макушка, «ужо год апаратсаюзнай дзяржавы не можа атрымаць памяшканне ў Маскве». Адзін з запранапанаваных будынкаў – Усерасійскі музей дэкаратыўна-прыкладнога і народнага мастацтва. Такім чынам, Саюз можа стаць музейным экспанатам.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

## 100 доляраў за кукіш

Адмысловую імітацыю 100-доляравага банкнота распаўсюдзілі 19 чэрвеня ў Віцебску мясцовыя актывісты маладзёжнага крыла Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

У адрозненне ад сапраўднага банкаўскага білета ў 100 доляраў ЗША, на імітацыі няма партрэта прэзідэнта Франкліна. Замест яго ў авальнай віньетцы – карыкатурная галава ў выглядзе кулака, тры пальцы якога складзены ў вядомую камбінацыю. На заднім баку банкнота надрукавана па-руску: «Готовы обменять эту купюру на реальные деньги тому, кто вспомнит хоть одно выполненное обещание А.Лукашенко».

У якасці гарантыі выканання ўласнага абяцання маладыя актывісты АГП тут жа, на 100-доларавым банкноце, указалі нумар тэлефона і адрас сваёй штаб-кватэры ў Віцебску.

**Леанід СІМАНАЎ**

ЭКАЛОГІЯ

## Ураган у Ганцавіцкім раёне

Аднаўлены электразабеспячэнне ААТ «Харчавік» і лініі электраперадач, якія былі пашкоджаны падчас урагану, што наляцеў на Ганцавіцкі раён Брэсцкай вобласці.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе ўпраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях па Брэсцкай вобласці, 19 чэрвеня ў перыяд з 15 гадзін 40 хвілін да 16 гадзін 40 хвілін на раён абрынуўся лівень з ветрам, парывы якога дасягалі 19 метраў у секунду; град у дыяметры перавышаў паўтара сантыметра. На працягу гадзіны выпала 94 мм ападкаў, што складае паўтары месячныя нормы. Падчас урагану былі пашкоджаны электразабеспячэнне ААТ «Харчавік» і тры лініі электраперадач. У калгасах імя Кірава, «Рассвет» і «Радзіма» пацярпелі сельгасугоддзі. У Ганцавічах, на вуліцах Камуністычнай, Касманаўтаў, Матросава і Чырвонаармейскай, былі падтоплены дамы.

На ліквідацыю наступстваў стыхіі былі задзейнічаны падраздзяленні МНС, службы жыллёва-камунальнай гаспадаркі і рабочыя мясцовага лясгасу.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**



# КДБэшныператрус

20 чэрвеня супрацоўнікі Камітэта дзяржбяспекі правялі вобшук у кватэры Сяргея Аніські – былога афіцэра аналітычнага ўпраўлення КДБ, а зараз – журналіста і супрацоўніка Беларускага Хельсінкскага камітэта. Вобшуку таксама падвергліся аўтамабіль Аніські і гараж, які ён узяў у арэнду.

Як паведаміў БелаПАН сам Сяргей Аніська, вобшук праводзіла брыгада са следчага аддзела КДБ, маркуючы па прадстаўленых пасведчаннях, афіцэры Антон Валенцюкевіч, Дзмітрый Холад, Максім Міронаў і Яўген Анфераў. «Уражвае тое, што нумар крымінальнага артыкула, па якім узбуджана крымінальная справа і па якім я праходжу ў якасці сведкі, так і не быў названы», – сказаў Сяргей Аніська. Разам з тым яму далі зразумець, што гэта звязана з яго публікацыямі: у газеце «Беларускі час» – артыкула «Глава государства может лишиться поддержки военных», у газеце «День» – артыкула «Армия обиженных пополнится военными». У гэтых матэрыялах аўтар аналізаваў настроі ў армейскім асяроддзі і палітычныя сімпатыі вайскоўцаў, якія да цяперашняга кіраўніцтва краіны ставяцца неадназначна. «У нейкім сілавым ведамстве адбылася ўцечка інфармацыі – ці ў міністэрстве абароны, ці ў КДБ, ці ў Савеце бяспекі – і зараз следчыя спрабуюць устанавіць крыніцу інфармацыі. Чамусьці яны вырашылі, што мае артыкулы звязаны з гэтай невядомай мне крыніцай інфармацыі», – сказаў С.Аніська.

Як лічыць Сяргей Аніська, напярэдадні выбараў улады спрабуюць стварыць у краіне «сітуацыю поўнага інфармацыйнага вакууму». 21 чэрвеня Сяргей Аніська выкліканы на допыт у КДБ.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

ФОТАФАКТ



Фота IREX/ProMedia

Цэнтральны ўваход у будынак міністэрства ўнутраных справаў Беларусі

## Узарваў свой завод

У выніку сумесных мерапрыемстваў супрацоўнікаў УКДБ па Магілёўскай вобласці і УУС аблвыканкама ўстаноўлена асоба чалавека, вінаватага ў выбуху самаробнай выбуховай прылады на заводзе «Магілёўтрансмаш».

Злачынцам аказаўся рабочы завода. Свае дзеянні ён растлумачыў інтарэсам да піратэхнічных эфектаў, адмаўляючы, што меў злы намер. Выбух адбыўся 15 чэрвеня на тэхнічным паверсе бытавога памяшкання цэха аўтамабільных паўпрычэпаў. Выбухам была пашкоджана падлога і выбіты шыбы. На месцы здарэння былі знойдзены фрагменты самаробнай выбуховай прылады.

У выніку выбуху заводу прычынены нязначны матэрыяльны ўрон, пацярпелых няма. У дачыненні да рабочага ўзбуджана крымінальная справа па факце хуліганства.

**Канстанцін УВАРАЎ**

ВЫСТАВЫ

## Дзеля роўнасці розных

Фатаграфія павінна стаць адным са спосабаў пераадолення псіхалагічнага бар'еру паміж людзьмі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі і людзьмі здаровымі. З такой мэтай Беларускае маладзёжнае грамадскае аб'яднанне «Розныя – Роўныя» арганізуе выставу мінскай фотамастачкі Зоі Мігуновай «Звычайныя людзі», якая адкрыецца ў сталічнай галерэі візуальных мастацтваў «Нова» 22 чэрвеня.

Як зазначыў каардынатар праекта Аляксей Кудасаў, экспазіцыя фотавыставы будзе складацца з сарака працаў, прадстаўленых у выглядзе партрэтаў, групавых, студыйных і падзейных здымкаў, героямі якіх сталі як інваліды, гэтак і фізічна здаровыя людзі. Паводле яго словаў, наведвальнікі выставы не павінны звядваць пачуццё жалю да людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Наадварот, аўтар імкнецца паказаць, што ў нашых сілах зрабіць гэты свет аднолькава цудоўным для ўсіх.

Дзейнасць арганізацыі «Розныя – Роўныя» не абмяжоўваецца дадзеным праектам. За два гады паспяховай працы было рэалізавана мноства сацыяльных і культурна-адукацыйных праграм для маладых людзей з фізічнымі і разумовымі абмежаваннямі і без такіх. На гэты год ужо запланаваны новы цыкл псіхалагічных трэнінгаў, школа экалагічнай адукацыі і правядзенне міжнароднага экалагічнага фестывалю «Круглае возера».

**Вольга АСІПЕНКА**

## Некаторыя байкатуюць

20 чэрвеня віцебскі актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі-БНФ Барыс Хамайда вярнуў у Мінск перададзенае яму напярэдадні пасведчанне члена ініцыятыўнай групы грамадзян па вылучэнні Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.

У суправаджальным лісце на імя кіраўніка групы Сяргея Папкова сказана: «Вяртаю Вам пасведчанне члена ініцыятыўнай групы, бо я лічу атрыманне дакумента ад нелегітымнага Цэнтрвыбаркама асабістай знявагай. Прашу Вас прыняць адпаведныя захады па адмене дадзенага рашэння.

Я зноў пацвярджаю сваю ранейшую прынцыповую пазіцыю аб жорсткім байкоце маючага адбыцца прэзідэнцкага выбарчага фарсу, таму што не жадаю садзейнічаць легітымізацыі злачыннага рэжыму на Беларусі. Пры ўсёй маёй павазе да асобы Зянона Пазьняка я лічу, што кіраўніцтва партыі, пагадзіўшыся на ўдзел у выбарах на ўмовах улады, дапусціла сур'ёзную тактычную памылку. Відавочнасць якой для большасці стане зразумелай у верасні».

Перадаючы БелаПАН копію гэтага ліста, Барыс Хамайда заявіў: «Я адмяжоўваюся ад памылкі, што ўчыняецца зараз маімі таварышамі па партыі і лідэрам Беларускага вызваленчага руху».

**Леанід СІМАНАЎ**

## На день республики дипломаты Балтии готовят демарш

Аккредитованные в Минске дипломаты стран Балтии, скорее всего, проигнорируют приглашение на военный парад 3 июля в честь Дня республики.

Причина – командовать парадом будет заместитель министра обороны Владимир Усхопчик, который в январе 1991 года возглавлял советский гарнизон в Вильнюсе, где при штурме телецентра погибли мирные жители.

Генеральная прокуратура Литвы до сих пор желает допросить В.Усхопчика, однако тот на прежнее место службы не ездит.

«А белорусские дипломаты пошли бы на парад в Вильнюсе, если бы им командовал, скажем, гауляйтер Кубэ?» – так в одном из балтийских посольств прокомментировали отказ принять приглашение участвовать в праздновании Дня республики.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

ПАЛІВА

# «Нафтан» скарачае нафтаперапрацоўку

Наваполацкае ВА «Нафтан» з пачатку чэрвеня (па стане на 19 чэрвеня) перапрацавала 373 тысячы тонаў вуглевадароднай сыравіны, ці 94% да аналагічнага перыяду чэрвеня мінулага года. Першасная перапрацоўка нафты на «Нафтане» з пачатку года скарацілася на 5% і склала 3.166 тысяч тонаў. Пры гэтым пастаўкі нафты склалі 3.154 тысячы тонаў, ці 94% да аналагічнага перыяду летась.

Разам з тым, аб'яднаннем за пяць месяцаў гэтага года выраблена прамысловай прадукцыі ў супастаўных цэнах на суму 567.378.764 тысячы беларускіх рублёў, ці 102,5% да студзеня-мая 2000 года.

Вытворчае аб'яднанне «Нафтан» з'яўляецца найбуйнейшым нафтаперапрацоўчым заводам у Еўропе, яго праектная магутнасць па першаснай перапрацоўцы нафты – больш чым 24 мільёны тонаў нафты ў год. «Нафтан» выпускае шырокі спектр нафтапрадуктаў: аўтабензіны, дызельнае паліва, газу, пячное і маторнае паліва, тапачны мазут, маторныя, індустрыяльныя, кампрэсарныя віды масла, высокаараматычныя вуглевадароды, розныя маркі будаўнічых, дарожных і дахавых бітумаў, серную кіслату, вадкія парафіны, бытавы газ, шырокі асартымент растваральнікаў.

**Вікторыя МЯЖЫЕВА**

СПОРТ

# Беларусы на Мак-Кінлі

Упершыню ў гісторыі беларускага спорту нашы альпіністы ўзышлі на галоўную вяршыню Паўночнай Амерыкі Мак-Кінлі. Гэта 6.194 метры. Узыходжанне зрабілі тры чалавекі, якія змаглі знайсці сродкі для падрыхтоўкі і правядзення экспедыцыі – бухгалтар з Мінска Ірына Веленкова, урач з пасёлка Лясны Валерый Майсеенка, інжынер з Гомеля Уладзімір Пушкароў.

Свой шлях наверх група пачала з базавага лагера на ледніку на вышыні 2.200 метраў над узроўнем мора. Мак-Кінлі стаіць у рэестры сусветна вядомых вяршыняў нейк паасобку з-за свайго незвычайнага геаграфічнага становішча – суседства Паўночнага полюса і Ціхага акіяна. Адсутнасць вельмі складаных тэхнічных задачаў кампенсуецца вельмі суворым кліматам.

Веленкова летась ужо штурмавала гару, але з-за дрэнных умоваў надвор'я вымушана была адкласці ўзыходжанне. На гэты раз усё прайшло інакш. На ўсё спатрэбілася 9 дзён.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# БМЗ закладаецца

Урад Беларусі дазволіў Беларускаму металургічнаму заводу (БМЗ) зрабіць заклад тэрмінам на адзін год тэхналагічнага абсталявання для атрымання крэдытаў і пазыкі, агульная сума якіх складае 20 мільёнаў долараў.

Прадпрыемству, як вынікае з пастановы Савета міністраў, дазволена зрабіць заклад абсталявання ацэначным коштам на 1 красавіка 2001 года больш чым 19,5 мільярда рублёў расійскаму «Альфа-Банку» для атрымання крэдыту ў суме 10 мільёнаў долараў, а таксама заклад абсталявання ацэначным коштам больш чым 12,8 мільярда рублёў таксама расійскаму «Нацыянальнаму рэзерваму банку» для атрымання крэдыту ў памеры 5 мільёнаў долараў. Акрамя гэтага, БМЗ дазволена зрабіць залог абсталявання ацэначным коштам на названую дату больш чым 9 мільярдаў рублёў кіпрскай фірме *Dalto Trade Ltd* (Кіпр) для атрымання пазыкі ў памеры 5 мільёнаў долараў для аплаты сыравіны і матэрыялаў.

**Аляксей АРЭШКА**

МУЗЫКА

## Рок-манеўры

28-29 чэрвеня ў Мінску ў канцэртнай зале Палаца культуры МАЗа і ў клубе «4 апельсіны» пройдзе першы Беларускі рок-фестываль «Вялікія манеўры», арганізаваны музычным маладзёжным грамадскім аб'яднаннем «Беларуская Рок-ліга».

Як зазначыў на прэс-канферэнцыі 20 чэрвеня прэзідэнт «Беларускай Рок-лігі» Ігар Жукоўскі, фестываль «Вялікія манеўры» – на сёння самы значны праект аб'яднання, які ўяўляе сабою «квінтэсэнцыю гадавой працы «Рок-лігі». На працягу года, раз у месяц, праходзілі адборачныя туры, у якіх бралі ўдзел гурты, якія граюць у адносна блізкіх стылях. Пераможцаў выбіралі самі гледачы, запаўняючы спецыяльныя бюлетэні. За гэты час у адборачных турах узялі ўдзел каля 300 каманд. Пераможцамі сталі «Вертыкальны ўзлёт», «ТТ-34», «Акруга Свабоднага Мастацтва», «Астру'с», «Арызона», «Йо-Йо», «Эгаіст», «*Deviation*», «*White Night Blues*», «*Jazzgrover*», «*Chronos Phobos*», «*Morbid Victory*», «*The Ravens*».

**Маша ПЯТРОВА**

ДЗЕ? ДЗЕ?

7 ліпеня мінае год, як знік наш калега, тэлеаператар

Рэпарцёры – не палітыкі. Журналісты – не суддзі. Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй.

Няма рэпарцёра – няма суда?

Дзе Дзмітрый Завадскі?

Хто і з якога права распараджаецца яго лёсам?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

# Пераслед журналіста

Выдае на тое, што на гэтым тыдні беларускія спецслужбы распачалі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў цэлую кампанію па ціску на праваабаронцаў, палітыкаў і журналістаў апазіцыйных выданняў. Днямі ў поле іхняй увагі патрапіў і супрацоўнік НАШАЙ СВАБОДЫ Аляксандр Дубравін.

З ягоных словаў, у сераду, 20 чэрвеня, ён разам з журналістам «Народнай Волі» Аляксандрам Сілічам былі ў Брэсце, а ўвечары ўзялі квіткі на цягнік да Мінска. Калі яны зайшлі ў сваё купэ, там ужо сядзеў адзін малады чалавек. Ён назваўся Сяргеем, інжынерам радыётэхнічнага завода, які едзе ў камандзіроўку. Потым дастаў пляшку гарэлкі і запрапанаваў Сілічу і Дубравіну далучыцца да яго. Тыя адмовіліся. Сяргей пачаў піць у адзіночку. Завязалася гаворка на самыя розныя тэмы, звычайная для пасажыраў цягнікоў. Паступова спадарожнік журналістаў пачаў пытацца, між іншым, як ім працуецца, пра тое-сёе з палітычнага жыцця Беларусі. Пры гэтым, па словах Аляксандра Дубравіна, «ён стаў дзіўна фармуляваць свае пытанні, надаючы ім сцвярджальную форму і вымагаючы адказаў «так». З'явілася падазрэнне, што нас з нейкай мэтай запісваюць на стужку». А.Дубравін пачаў адказваць яму яўнай дэзінфармацыяй.

Калі А.Сіліч выйшаў з купэ па нейкіх справах, чалавек, які прадставіўся Сяргеем, перастаў цырымоніцца: «калі не хочаш, каб твае вочы клявалі галкі, калі не хочаш, каб цела тваёй жонкі гніло пад дажджом, сядзі ціха ці эмігруй». Апрача таго, згадаў, што калісьці А.Дубравін быў рэдактарам часопіса «Аўтапарк» і што ў сувязі з гэтым у яго могуць быць пэўныя непрыемнасці, а да ўсяго дадаў, што зараз забіць чалавека каштуе 500 долараў, і даручыць гэта зрабіць можна «любому адмарозку». Напрыканцы паабяцаў «яшчэ сустрэнемся».

Па прыездзе ў Мінск журналіста НАШАЙ СВАБОДЫ яшчэ некалькі гадзінаў пільнавалі невядомыя асобы ў штацкім. Сам А.Дубравін наўпрост звязвае гэты выпадак са сваімі журналісцкімі аналітычнымі матэрыяламі пра палітычныя варункі ў краіне.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# «Дорогие мои москвичи!»

***Перадвыбарныя спевы заезджага гастралёра***

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Лукашэнка дагэтуль спрабаваў лавіраваць, але відавочна: Расія не збіраецца ўзгадняць сваю эканамічную палітыку з суседам па саюзнай камуналцы. Дададзім, што перад выбарамі А.Лукашэнку вельмі нявыгадна сварыцца з Масквой.

Учора ж А.Лукашэнка сустрэўся з былым прэзідэнтам СССР Міхаілам Гарбачовым, дзейнасць якога беларускі кіраўнік то ўпарта крытыкаваў, то, наадварот, ганарыўся сваёй «сумеснай працай» з тагачасным генсекам КПСС.

Падчас сустрэчы А.Лукашэнка заявіў: ягоны тэрміновы візіт у Расію ніяк не звязаны з выбарамі. Па словах беларускага кіраўніка, яму «непатрэбная ніякая падтрымка, апроч падтрымкі народа Беларусі». Потым гэты тэзіс быў паўтораны. Звяртаючыся да прадстаўнікоў расійскіх сродкаў масавай інфармацыі, ён сказаў: «Дарагія мае масквічы, я ўжо сказаў і яшчэ раз паўтару: мне патрэбная падтрымка толькі майго народа».

З Масквы А.Лукашэнка ад'язджаў відавочна незадаволены. Галоўная мэта засталася недасягнутай – Крэмль не прагнуўся перад ім, і нават не падтрымаў. Адзінае спадзяванне – Масква можа расчаравацца ў астатніх сваіх «кандыдатах», і тады ёй проста давядзецца падтрымаць цяперашняга кіраўніка Беларусі.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Тайны прэзідэнцкага фонду

## *Ніхто не ведае, куды падзеўся 1 мільярд долараў*

Міністр фінансаў рэспублікі Мікалай Корбут, выступаючы 21 чэрвеня перад членамі ніжняй палаты Нацыянальнага сходу, не змог даць дакладных і канкрэтных адказаў на шэраг пытанняў, зададзеных яму дэпутатам Іванам Пашкевічам. Парламентарыя, у прыватнасці, цікавіла, што сабою ўяўляе прэзідэнцкі фонд, у якім банку знаходзяцца яго рахунак і колькі на ім сродкаў, хто падпісвае плацёжныя даручэнні на расходаванне сродкаў з гэтага фонду і па якіх артыкулах ідзе іх размеркаванне. Па словах дэпутата, «раней прэзідэнт гаварыў пра тое, што на рахунку фонду за гандаль зброяй знаходзілася да 1 мільярда долараў». Сваю цікавасць да дадзенай тэмы І.Пашкевіч патлумачыў дзвюма акалічнасцямі. Па-першае, тым, што «бюджэт павінен быць празрыстым, і ўсё павінна знаходзіцца пад кантролем парламентарыяў». І, па-другое, палітычным фонам вакол прэзідэнцкага фонду, звязаным з распачатай кампаніяй на выбарах кіраўніка дзяржавы. «У кандыдатаў у прэзідэнты ёсць падазрэнне, можа быць яно і неапраўданае – усё можа быць, – што грошы на гэтую выбарчую кампанію, у прыватнасці, адным з прэтэндэнтаў – Аляксандрам Лукашэнкам – будуць выкарыстоўвацца з гэтак званага прэзідэнцкага фонду», – заявіў дэпутат.

З адказаў Мікалая Корбута можна было зразумець толькі тое, што сродкі ад рэалізацыі тэхнікі спецыяльнага прызначэння «праз бюджэт не праходзяць», нейкі рахунак, на якім яны акумулююцца, знаходзіцца ў «Беларусбанку», і гэтыя сродкі «выкарыстоўваюцца на падтрыманне ўсёй эканомікі». Колькі сродкаў на рахунку, міністр, мяркуючы па яго словах, не ведае, але гаворыць, што сёння банк не можа выдаць крэдыты нават на суму 10-15 мільёнаў долараў ЗША: усе грошы задзейнічаны.

Што тычыцца фінансавання прэзідэнцкай кампаніі, то, паводле слоў М.Корбута, на гэтыя мэты Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў ужо выдзелена 1,5 мільярда рублёў з 11 мільярдаў 200 мільёнаў запланаваных.

Дамагчыся адказаў на пастаўленыя пытанні ад міністра фінансаў Івану Пашкевічу перашкодзіў спікер Палаты прадстаўнікоў Вадзім Папоў, які выключыў мікрафон і прамовіў: «Няма адказу на пытанне – гэта таксама адказ».

**БелаПАН**

# Лукашэнка ў Маскве знайшоў правакатараў

Удзень 21 чэрвеня прэзідэнт Беларусі вярнуўся з Масквы, дзе знаходзіўся з двухдзённым рабочым візітам.

Як паведамляюць афіцыйныя крыніцы, перад адлётам у Мінск Аляксандр Лукашэнка заявіў журналістам, што не задаволены тэмпамі стварэння Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Паводле яго словаў, адной з асноўных прычынаў зацягвання гэтага працэсу з'яўляюцца «дзеянні так званых праварэакцыйных сілаў у Расіі і Беларусі, якія негатыўна ўспрымаюць інтэграцыю дзвюх дзяржаваў у адзіны саюз».

«Асноўныя вынікі гэтага візіту ў расійскую сталіцу будуць падводзіцца заўтра ў Мінску», – сказаў Лукашэнка. Ён растлумачыў гэта тым, што «пра сітуацыю ў Беларусі, самога прэзідэнта і яго дзеянні расійскія каналы паведамляюць у скажоным выглядзе».

Паводле словаў Лукашэнкі, у яго гутарцы з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным разглядаліся толькі эканамічныя пытанні саюза дзвюх дзяржаваў. Гэтая сустрэча, лічыць беларускі прэзідэнт, «стала працягам тых перамоваў, якія адбыліся потым, у першую чаргу, з прэм'ер-міністрам Расіі Міхаілам Касьянавым». У размове з прэм'ерам, паведаміў Лукашэнка, абмяркоўваліся пытанні паставак газу і нафты ў Беларусь, а таксама падатковыя праблемы, якія знаходзяцца ў стадыі прапрацоўкі і будуць разглядацца на бліжэйшым паседжанні кіраўніцтва Саюзнай дзяржавы. «Абмяркоўваліся таксама мытныя пошліны і мытны кантроль з тым, каб бліжэйшым часам урэгуляваць спрэчныя пытанні паміж дзвюма краінамі», – сказаў Лукашэнка. Што да яго сустрэчы з вядучымі расійскімі бізнесменамі, то на ёй, паводле словаў Лукашэнкі, «размова ішла пра распрацоўку двух радовішчаў нафты, адно з якіх знаходзіцца ў Ненецкай аўтаномнай акрузе, а таксама пра газавыя праблемы».

**Максім ЦІТОЎ, БелаПАН**

# Без альтэрнатывы

20 чэрвеня завяршылася фарміраванне тэрытарыяльных камісіяў (159 раённых, Мінская гарадская і шэсць абласных) па выбарах прэзідэнта Беларусі. Фактычна ні адзін дэлегат з 600 прэтэндэнтаў, вылучаных Міжпартыйным цэнтрам, які аб'ядноўвае 10 з 18 зарэгістраваных партыяў, у тэрытарыяльныя камісіі не трапіў. Гэта азначае, што ўлада не мае намеру адступаць ад плана масавых фальсіфікацыяў прэзідэнцкіх выбараў.

Пра сітуацыю вакол стварэння выбарчых камісіяў распавядае кіраўнік Міжпартыйнага цэнтра намеснік старшыні БНФ Вячаслаў СІЎЧЫК.

— Практычна ўсе нашыя кандыдаты не прайшлі ў тэрытарыяльныя камісіі, хаця мы вылучалі каля 600 чалавек. Гэта вытлумачваецца проста: абсалютная большасць з іх не прымала ўдзелу ў фальсіфікацыях на выбарах у палатку, таму і былі адкінутыя пры фармаванні тэрытарыяльных камісіяў. І самае смешнае, што фарміраванне тэрытарыяльных камісіяў праходзіла ў нерабочы час, раніцой, яшчэ да адкрыцця выканкамаў. Склад тэрытарыяльных камісіяў для Беларусі абсалютна нетыповы: ён не адпавядае ні ўзроставаму складу, ні тым поглядам, якіх прытрымліваецца беларускае насельніцтва. 95 адсоткаў сябраў гэтых камісіяў – гэта прыхільнікі цяперашняга рэжыму, і самае страшнае, што вельмі вялікі працэнт тых, хто прымаў асабісты ўдзел у масавых фальсіфікацыях папярэдняй кампаніі.

У нас ёсць інфармацыя, што ўжо цяпер таксама незаконна «вертыкаль» фарміруе ўчастковыя камісіі, хаця не мае ніякага права на законе, бо фарміраванне ўчастковых камісіяў мусіць пачацца пасля афіцыйнай нарэзкі ўчасткаў. «Вертыкаль» ужо ведае межы ўчасткаў, таму і арганізавалі па Беларусі вылучэнне людзей у камісіі. У звязку з гэтым я б хацеў звярнуцца да чытачоў НАШАЙ СВАБОДЫ, каб яны пісалі ў газету, як адбываецца вылучэнне ў камісіі, каб пісалі ў ЦВК, каб копіі заяваў накіроўвалі нам – у Міжпартыйны цэнтр.

***— Якія найбольш тыповыя парушэнні заканадаўства зафіксаваныя Міжпартыйным цэнтрам?***

— Парушэнні аднолькавыя ва ўсіх рэгіёнах. Гэта – адмовы прадстаўнікам палітычных партыяў рэгістраваць пратаколы. Рэгістрацыя пратаколаў ад палітычных партыяў пад іншымі нумарамі – гэта не ёсць такая дробная рэч, таму што тэрытарыяльныя камісіі фарміраваліся па часе падачы пратаколаў. Мы не далі ім такой магчымасці, бо вылучэнне было масавым. Адміністратыўны ціск на актывістаў палітычных партыяў – гэта рабіла і «вертыкаль», і органы МУС, і КДБ; запалохванні людзей, пагрозы – гэта ні ў якае заканадаўства, нават лукашэнкаўскае, упісацца не можа.

Але ж найбольш істотныя парушэнні закона звязаныя з вылучэннем, якое спрабавалі арганізаваць выканкамы, таму што іхняя сістэма таксама да канца была не гатовая. Гэта звязанае з тым, што асабістую адказнасць нясуць першыя асобы, таму ўсе іншыя службы проста не паспеюць спрацаваць. Таму вельмі часта тыя сходы, ад якіх быццам бы рабіліся пратаколы ў пятніцу раніцой, проста не праводзіліся. У Жодзіне, напрыклад, ужо ў 8 гадзінаў раніцы пачалі здаваць пратаколы працоўных калектывы. Таму тэрытарыяльныя камісіі проста афармлялі спісы, якія ў іх ужо былі, і калі б Ярмошына хацела выконваць закон, а не служыць аднаму чалавеку, яна хуценька разабралася б з усімі гэтымі фактамі. Але яна асабіста ў гэтым не зацікаўленая.

Я вельмі незадаволены, што нашыя прадстаўнікі не трапілі ў тэрытарыяльныя камісіі. Ні аднаго чалавека ў камісіях не мае ні БНФ, ні АГП, ні БСДП (Народная Грамада)... Але ж гэта залежала не ад нас. Лукашэнка паказвае ўжо на гэтым этапе, што чэсна выйграць ён не можа.

***— Як адрэагуе Міжпартыйны цэнтр на ўсе парушэнні заканадаўства?***

— У канцы тыдня мы выпусцім мемарандум пра ўсё тое, што адбывалася пры вылучэнні нашых прадстаўнікоў у тэрытарыяльныя камісіі. І ў першую чаргу мы накіруем мемарандум за межы Беларусі: каб Расія больш не магла сцвярджаць і віншаваць некага Лукашэнку, калі ён сфальсіфікуе выбары, што выбары былі дэмакратычныя. Каб Захад больш не мог кіравацца падвоенымі стандартамі адносна правоў чалавека, бо асноўныя правы беларускага народа – абіраць уладу.

**Рыгор БУЯН**

# Адваката пакаралі за словы

Сёньня Маскоўскі раённы суд Менску пастанавіў спагнаць з адвакаткі Веры Страмкоўскай 600 тысяч беларускіх рублёў (прыкладна 500 даляраў ЗША) кампэнсацыі за словы, якія яна сказала падчас працэсу па справе Васіля Старавойтава.

У 1999 годзе на гэтым працэсе адвакатка зацікавілася лёсам канфіскаванага ў Старавойтава каньяку. Яна прасіла суд высьветліць, дзе знаходзяцца 40 бутэлек каньяку «Белы бусел», бо зьявіліся чуткі, быццам яго прысвоілі сьледчыя. З гэтай прычыны сьледчы Смаленцаў падаў пазоў аб абароне гонару і годнасьці.

Больш як паўгода судзьдзя Сяргей Нікалаеў разглядаў справу і ў выніку пазоў Смаленцава часткова задаволіў. Таксама пакаралі газэту «Навіны» і ейнага былога карэспандэнта Алега Груздзіловіча, які асьвятляў у «Навінах» судовы працэс над Старавойтавым. Газэту, якой ужо не існавала, абавязалі заплаціць сьледчаму 800 тысяч рублёў, журналісту далі штраф на 500 тысяч рублёў.

Адвакатка Вера Страмкоўская назвала рашэньне судзьдзі «беспрэцэдэнтным, якое адкрывае шлях незаконнага пакараньня адвакатаў за выкананьне імі абавязкаў у справе абароны кліентаў». Абаронца журналіста, прадстаўнік Беларускага Гельсінскага камітэту Гары Паганяйла назваў гэтае рашэньне «чарговым захадам супраць свабоды слова ў Беларусі».

Страмкоўская і Груздзіловіч заявілі, што будуць дамагацца адмены рашэньня ў вышэйшай судовай інстанцыі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Кандыдата не пусцілі на НТВ

20 чэрвеня адзін з патэнцыйных кандыдатаў у прэзідэнты – былы кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын – не змог патрапіць у начны эфір праграмы «Сегодня» на НТВ. Яго проста не пусцілі на Беларускае тэлебачанне, дзе мусілі адбыцца здымкі.

Л.Сініцын быў запрошаны вядучым начнога выпуску праграмы «Сегодня с Александром Хабаровым» на інтэрв'ю, прымеркаванае да пачатку прэзідэнцкай выбарчай кампаніі на Беларусі. Як заявіў сам Л.Сініцын у тэлефоннай размове з А.Хабаравым, яго напросту не пусцілі на Беларускае тэлебачанне, адкуль патэнцыйны кандыдат мусіў выйсці ў прамы эфір НТВ. Л.Сініцын сцвярджае, што на БТ існуе спіс, і ягонае прозвішча стаіць у спісе пад №1, для якіх уваход на тэлебачанне забаронены. Прычынай таму боязь Лукашэнкі прайграць прэзідэнцкую кампанію, лічыць былы саратнік А.Лукашэнкі.

**Рычард ЛЬВОЎ**




**РАССЛЕДАВАННІ**

# Тлумачэнне Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў

Прэс-цэнтр Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў Беларусі распаўсюдзіў афіцыйнае паведамленне ў сувязі са з'яўленнем у СМІ публікацыяў аб правядзенні супрацоўнікамі органаў фінансавых расследаванняў вобыску ў офісе газеты НАША СВАБОДА.

Нагадаем, што вобыск у рэдакцыі НАШАЙ СВАБОДЫ праводзіўся 19 чэрвеня. Не прад'яўляючы ордэра, толькі на падставе распараджэння, якім была прызначаная праверка фінансава-гаспадарчай дзейнасці газеты, супрацоўнікі Дзяржкамітэта фінансавых расследаванняў канфіскавалі некалькі перадвыбарных наклеек.

Падаплёку падзеі прэс-служба Дзяржкамітэта тлумачыць наступным чынам: «18 чэрвеня падчас правядзення мерапрыемстваў па спыненні незаконнага абароту алкагольнай і тытунёвай прадукцыі ў Мінску пры аглядзе складскіх памяшканняў ЗАТ «Сатвар» была знойдзеная і канфіскаваная буйная партыя ўлётак з заклікам галасаваць на выбарах за М.Чыгіра, у якіх утрымліваліся звесткі, што зневажаюць гонар і годнасць прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Падчас праверкі дырэктар ЗАТ «Сатвар» А.Гуркоў патлумачыў, што згаданыя ўлёткі раней яму перадаў П.Жук, які працуе ў рэдакцыі газеты НАША СВАБОДА. У сваю чаргу, П.Жук патлумачыў, што гэтыя ўлёткі ён атрымаў ад самога М.Чыгіра».

Адразу пасля вобыску Павел Жук заявіў БелаПАН, што фінансавая міліцыя шукала «кампрамат» на магчымага кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. Што тычыцца ўлётак, знойдзеных у ЗАТ «Сатвар», то, па словах Жука, гэта былі перадвыбарныя ўлёткі Чыгіра, выдадзеныя яшчэ падчас прэзідэнцкай кампаніі, што праводзілася Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання ў 1999 годзе. Яны выкарыстоўваліся камерсантам у якасці чарнавікоў.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН**

# Халва, халва...

## *Если ее нет – сладко во рту не будет*

*Похоже затея с повышением среднебелорусской зарплаты до сотни долларов в месяц может сыграть против того, кто ее придумал и вынес в массы. Бюджетники, там не бюджетники, учителя или колхозники – это все избирателю без разницы. Он человек во всех отношениях средний, вот ему вынь и положь...*

А с этим не очень-то получается. В апреле, например, реальная средняя зарплата по сравнению с мартом увеличилась аж на 0,5 процента и, если считать по разным курсам, доползла до отметки между 75-ю и 76-ю долларами. Надо набрать еще «четвертак», но при таких темпах на это понадобиться несколько лет. Как говорится, не в этой политической жизни.

К тому же речь идет о начисленной («грязными») зарплате, до вычета налогов. Важное значение имеет и соблюдение сроков выплаты, потому что крупной начисленной суммой можно радоваться, разглядывая бухгалтерский «корешок», но купить за нее ничего нельзя. Президент, разумеется, это прекрасно понимает, поэтому и отдал распоряжение премьеру погасить все долги до 25 июня. Наверное, погасят. Но где гарантия, что не будет новых возгораний?

Нет таких гарантий. Потому как денег нет ни в казне, ни на счетах предприятий. Жилкоммунхоз, например, надо спасать, иначе вполне вероятен дальневосточный сценарий для Минска и любого другого города уже в нынешний отопительный сезон. По этой причине принято решение с 1 июля повысить на 80% цены на отопление и горячую воду. Причем за воду платить придется уже в августе, накануне выборов. Из неполученных зарплат?

Особая статья – колхозники. Или, как говорят специалисты, электоральный компост, на котором возрос Лукашенко. Может быть, поэтому некие «тайные оппозиционеры» регулярно пробрасывают значительную часть их мимо кассы. Вот и сейчас, к началу лета каждый третий из них полностью или частично не получил начисленное еще в апреле.

Следует отметить, что харизма у Лукашенко особого свойства. Она воспринимается людьми, далекими от абстрактных размышлений, как особое его свойство делать конкретные дела: если он сказал, так и будет. Но именно с конкретикой в стране напряженка. То есть харизма (как обещание) вступает в противоречие с кармой (как совокупность поступков и их последствий), что и не позволяет накормить электорального белоруса обещанной халвой.

Или как говорят белорусы: на словах многа, а на справе ничога...

Вот как выглядит это «ничога» на самом деле. По данным выборочного обследования домашних хозяйств, в I квартале текущего года из общей численности населения 35,1% располагали доходами ниже бюджета прожиточного минимума (меньше 45 тыс. рублей по апрельскому «минимуму»), в том числе 33% – в городских поселениях и 39,9% – в сельской местности. А каждый двадцатый гражданин нашей процветающей страны располагал среднемесячным «доходом» в два с лишним раза меньшим этого мизера. В голове не укладывается, как могут жить эти люди.

Подчеркнем, что речь идет не о бомжах, не о нищих в подземных переходах. Речь идет о людях, живущих в семьях, воспитывающих детей. И, как утверждает статистика, распространенность нищеты напрямую зависит от количества детей в семье. Так, в I квартале 2001 г. удельный вес малообеспеченных семей с одним ребенком (в процентах к соответствующей группе семей) составил 33,5%, с двумя – 44,7%, с тремя и более – 68,9%. Даже неполные семьи с детьми живут лучше многодетных, в которых, по идее, работают оба родителя. Так, среди неполных семей с детьми (с одним взрослым) доля малообеспеченных в I квартале 2001 г. составила 34,2%.

Что там говорили про ледовые дворцы, построенные для белорусских детишек? Да многим из них по причине недоедания всякая физкультура противопоказана.

Помимо детей зажить достойной жизнью белорусу мешает и многое другое. Во-первых, это профессиональная и отраслевая принадлежность. Меньше «минимума» обречены, например, получать работники сельского хозяйства, социального обеспечения, заготовительных организаций.

Обречены на нищету медсестры, нянечки, учителя, научные сотрудники. Они в принципе не могут прокормить своих детей. То есть прокормить могут, но дать все необходимое для нормального развития ребенка, его физических и интеллектуальных способностей нет. Поэтому вообще вопрос планирования семьи – это уже не вопрос самой молодой семьи. Прежде, чем заводить ребенка, надо собрать большой совет родственников. И узнать, собираются ли они кормить его солидарными усилиями, создавая целевой фонд бабушек, дедушек, дядей и теней. По образцу тех, которые создает Лукашенко.

Грустно все это. Угнетает убогость, отсутствие смелых решений, отсутствие малейшего намека на фантазию, способности анализировать, взвешивать, принимать шаги, сообразуясь с их последствиями. Вместо того, чтобы управлять процессами, управляют людьми. Чуть ли не откручивают головы, а экономика давно пошла в разнос.

Цель эта стодолларовая, бесконечно убогая, часовая зарплата какого-нибудь чистильщика сапог в Бруклине, а вокруг нее пробуют объединить нацию, указывая на какие-то там перспективы. Но и эта высота недостижима.

Что же все-таки с нами будет?

**Константин СКУРАТОВИЧ**




# У Беларусі таннее толькі гераін

*Па афіцыйных дадзеных, у Беларусі на наркаманію хварэюць 8 тысяч чалавек.*

Як паведамілі ва ўпраўленні нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў міністэрства ўнутраных справаў, рэальная наркатызацыя грамадства большая ў 5-6 разоў, а гэта каля 50 тысяч чалавек. За мінулыя 10 гадоў колькасць злачынстваў, звязаных з наркотыкамі, павялічылася ў 10 разоў, здзейсненых наркаманамі – у 29 разоў, а выкрытыя праваахоўнымі органамі наркатычныя рэчывы – у 63,3 раза.

Разам з тым на фоне агульнай сітуацыі з наркаманіяй у іншых краінах СНД Беларусь выглядае зусім някепска. Узровень наркатызацыі насельніцтва ў нас меней, чымсьці ў Расіі, у 4 разы, ва Украіне – у 3 разы. Напрыклад, толькі ў Днепрапятроўскай вобласці Украіны наркаманаў болей за ўсю Беларусь.

Па дадзеных галоўнага ўрача Мінскага гарадскога наркалагічнага дыспансера Сяргея Малочкі, сярод наркаманаў колькасць падлеткаў да 20 гадоў складае 21%, а яшчэ гады 3-4 таму яна была не больш за 5%. Наркаманаў у Мінску – каля 15 тысяч чалавек. У той час як афіцыйна зарэгістравана іх 2,2 тысячы чалавек, амаль у 7 разоў. З іх 80% – так званыя шпрыцавыя наркаманы.

Асноўная прычына павелічэння колькасці наркаманаў – таннасць і даступнасць наркотыкаў. Паток наркотыкаў у краіну з усіх бакоў апошнімі гадамі значна ўзрастае. З боку Расіі і Украіны вязуць сярэднеазіяцкі гераін, з Польшчы – сінтэтычныя рэчывы. За першую палову 2001 года колькасць вынятага гераіну ўзрасла ў 3 разы ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, а колькасць псіхатропных рэчываў – у 5 разоў.

Адкрыццё новага наркаканала з Азіі абумовіла і таннасць наркотыкаў. У 1996-1998 гадах адзін грам гераіну каштаваў 100-120 долараў, а таму быў даступны толькі заможным яго спажыўцам. Зараз за 12-20 долараў дзе-небудзь на Паўночным пасёлку ў сталіцы ў любы час яго можа купіць нават школьнік.

Як вынік, Мінску належыць другое месца па краіне па захворванні на ВІЧ/СНІД. Пачынаючы з 1996 года, калі было зафіксавана 16 выпадкаў захворвання, пачалося эпідэміялагічнае распаўсюджванне гэтых хваробаў. За 2000 год зафіксавана 87 такіх выпадкаў, а толькі за першую палову 2001 года – ужо 68.

Самы неспрыяльны ў гэтым плане Заводскі раён сталіцы. На яго прыпадае 22% ад усіх захворванняў на ВІЧ па горадзе. Далей ідуць Маскоўскі і Фрунзенскі раёны – па 12%, а на трэцім месцы Ленінскі і Савецкі раёны – па 11%. Але калі суаднесці колькасць хворых да колькасці насельніцтва, то па сумнай статыстыцы лідзіруе Цэнтральны раён.

Сацыялагічныя апытанні моладзі і непасрэдна наркаманаў даюць цікавыя вынікі. Большасць наркаманаў пачынае спажыванне ін'екцыйных наркотыкаў яшчэ ў часы вучобы ў школе, ПТВ ці ВНУ, і бацькі большасці з іх аб гэтым нават не здагадваліся. Значную частку апытаных аб наступствах спажывання наркотыкаў інфармуе не школа і бацькі, а тэлебачанне, хоць там падобная інфармацыя частковая і няпоўная.

У выніку 90% апытаных спажыўцоў наркотыкаў прытрымліваюцца рызыкоўных паводзінаў у ін'екцыях і сексуальным жыцці. З іх 55% маюць сексуальныя сувязі з неспажыўцамі наркотыкаў, а 26% пры гэтым ніколі не карыстаюцца прэзерватывамі.

Аказваць кваліфікаваную медычную дапамогу такім людзям цяжка. Вельмі часта іх адпужваюць ад гэтага праваахоўныя органы. Паводзіны міліцыі часам садзейнічаюць распаўсюджванню наркаманіі. Раней супрацоўнікі МУС спрабавалі атрымаць інфармацыю аб наркаманах у самім наркалагічным дыспансеры, які гарантуе тым, хто сюды звернецца, ананімнасць, а зараз сочаць за пунктамі абмену шпрыцоў, дзе ахвотныя таксама маюць магчымасць атрымаць прэзерватывы і даведачную інфармацыю. Зразумела, што наведвальнікаў там паменела.

Па сусветных дадзеных, сапраўднае жаданне лячыцца маюць толькі 10-12% наркаманаў. Для аднаго Мінска гэта 1,5 тысячы чалавек. Такой колькасці месцаў існуючыя рэабілітацыйныя цэнтры не маюць, а на новыя грошай у дзяржавы не стае. Толькі адзін дзень утрымання (не лячэння) наркамана ў стацыянары вымагае 3 долары, а тэрмін рэабілітацыі цягнецца ад паўгода да двух.

Беларускім бюджэтам непасрэдна на лячэнне на душу насельніцтва выдаткоўваецца 75 долараў на цэлы год, у той час калі адзін наркаман патрабуе больш як 500 долараў на паўгода. Такім чынам, кожны выратаваны наркаман «пакіне» без медычнай дапамогі 7 чалавек.

На думку галоўнага ўрача Мінскага гарадскога наркалагічнага дыспансера С.Малочкі, гэтай справай, як гэта робіцца ва ўсім свеце, павінны займацца грамадскія арганізацыі, а ад дзяржавы патрабуюцца толькі льготы па падатках і арэндзе.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Канфлікт інтарэсаў,

## *або Доўгая агонія «народнага прадпрыемства»*

*На Гродзенскай фабрыцы мастацкіх вырабаў адбыўся незвычайны суд. Былыя работніцы падалі на цяперашняга дырэктара скаргу ў пракуратуру. Яны прасілі прызнаць несапраўдным продаж прадпрыемства закрытаму акцыянернаму таварыству «Сцецкевіч». Здзелка гэтая адбылася летась. Гаспадарчы суд, аднак, адмовіўся задаволіць іск.*

Над прахадной па-ранейшаму захавалася старая шыльда «Народнае прадпрыемства «Сузор'е». Хаця рэальна яно з'яўляецца філіяй ЗАТ «Сцецкевіч». Але і «Сузор'е», як ні дзіўна, да канца яшчэ не памёрла. Праўда, існуе ўжо толькі на паперы. Ліквідацыйная камісія ніяк не можа паставіць апошнюю кропку, паколькі ў рэальна неіснуючай фабрыкі засталіся пазыкі – 325 тысяч падаткаў і 5-мільённая пеня.

Год таму, па новым заканадаўстве, «народная» форма ўласнасці павінна была быць скасаваная. Становішча «Сузор'я» было даволі кепскім. Таму неабходны быў хтосьці, хто меў грошы. Але не кожны захацеў бы рызыкаваць, бо фабрыка, шчыра кажучы, не выглядала вельмі прывабным набыткам. З нешматлікіх варыянтаў быў абраны хаўрус з ЗАТ. Работніцы, якіх каля 200, пачулі сёння больш упэўненасці. Усіх, звольненых з «Сузор'я», нават «дэкрэтчыц», узялі на працу ў акцыянернае таварыства.

Аднак адразу ўзнік канфлікт інтарэсаў. Сем жанчын-акцыянерак, якія яшчэ раней звольніліся з «Сузор'я», падалі скаргу ў пракуратуру. І вось тут нам не абысціся без перадгісторыі. Прадпрыемства стала «народным» у 1992 годзе, калі работніцы выкупілі яго ў дзяржавы. Выкупілі за ўласныя грошы. Гэта быў час надзеяў. Тады здавалася цалкам рэальным, стаўшы акцыянерам, атрымліваць потым нармальныя дывідэнды. Тым больш, грошы імкліва абясцэньваліся, і кожны хацеў бы выгадна ўкласці іх. Работніцы пазычалі, прадавалі нават машыны, каб атрымаць акцыі на некалькі тысяч рублёў і мець салідны ўдзел. Некаторыя нават успамінаюць, што была пастаўлена такая ўмова: кожны павінен выкупіць маёмасці не менш, як на тры тысячы рублёў.

Тадышні дырэктар Балоцін, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, напэўна, здолеў пераканаць работніцаў у патрэбе зрабіць прадпрыемства «народным», стаўшы яго гаспадарамі. Сам час і падзеі падштурхоўвалі людзей да гэтага. І неяк ніхто не звярнуў тады ўвагі на тое, што рэальна не была вызначаная доля ў маёмасці кожнага з працуючых, а акцыямі сталі паперкі, размножаныя на ксераксе. Эканамічнае становішча фабрыкі з часам стала пагаршацца. Людзі пачалі звальняцца. Па ўмовах, кожны павінен быў прадаць свае акцыі фабрыцы. Каму плацілі грашыма, каму – таварам. На думку сённяшняга дырэктара С.Аўсейца, гэта моцна паслабіла прадпрыемства.

Тыя, хто пратрымаўся на родным прадпрыемстве даўжэй, прайграў. Ім даводзілася звальняцца, не атрымаўшы за свае акцыі нічога. Але пакуль «Сузор'е» існавала, у іх заставалася тэарэтычная магчымасць калі-небудзь атрымаць свае грошы. Цяпер такая надзея па сутнасці знікла, паколькі ЗАТ «Сцецкевіч» перад былымі работніцамі аніякіх абавязкаў не мае. Вось чаму сем з іх дамагаліся перагляду ў судзе здзелкі аб продажы прадпрыемства. Праўда, выйграць справу ім не ўдалося. Сп. Аўсяец гаворыць, што, пры магчымасці, грошы былым работніцам-акцыянерам будуць выплачвацца. Але гэта выглядае хутчэй як маральны абавязак. Пасля канчатковай ліквідацыі «Сузор'я» добрая воля дырэктара не будзе падмацавана юрыдычна.

На судзе С.Аўсяец папярэджваў, што калі скасаваць здзелку, наступствы для фабрыкі будуць катастрафічнымі. Паколькі тады давядзецца выплачваць ЗАТ 58 мільёнаў рублёў. Дзе ўзяць такія грошы? Прадстаўнік адказчыка пры гэтым ушчуваў жанчын: вам, маўляў, галоўнае не лёс фабрыкі, а свае грошы. І гэта праўда. Але такі «эгаізм» цалкам зразумелы. Жанчыны працавалі на фабрыцы колькі маглі. На мізэрныя заробкі, якія затрымліваліся на некалькі месяцаў, немагчыма было жыць. Аб гэтым яны гаварылі ў судзе. Давялося шукаць іншай працы. Але ў «Сузор'е» яны ўклалі свае грашовыя ашчаджэнні, не атрымаўшы іх назад.

Сёння на фабрыцы каля паловы работніцаў – новыя, якія ніколі не былі акцыянерамі «Сузор'я». Ініцыятаркі суда, які адбыўся, дарэчы, у кабінеце дырэктара, выклікаюць у іх непрыхільнасць. І гэта можна зразумець. Праца сёння ёсць, заробкі больш-менш: у сярэднім за травень, па словах Аўсейца, жанчыны атрымалі 74 тысячы рублёў. Цікава, аднак, што адмоўна паставіліся да сямі жанчын, якія падавалі скаргу ў пракуратуру, і іхнія былыя каляжанкі, якія па-ранейшаму працуюць на «Сузор'і». Маўляў, уцяклі з «карабля», а калі ён перастаў тануць, пачалі яго разгойдваць. Суд, аднак, прыняў бок новага гаспадара, не выявіўшы парушэнняў пры продажу былога народнага прадпрыемства.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# На Купалле з усяго свету

*Сёлета ўвесну і ўлетку ў Беларусі ладзіцца багата самых розных форумаў. Ужо прайшлі з'езд беларускіх пісьменнікаў, з'езд Таварыства беларускай мовы, так званы Другі Усебеларускі сход. Наперадзе – кангрэсы дэмакратычных сілаў і беларускай моладзі. А найбліжэй, 5-6 ліпеня, у Мінску мае адбыцца III з'езд беларусаў свету.*

З'езд ёсць прадстаўнічым форумам прыкладна 13 мільёнаў беларусаў з усяго свету: трохі меней 10 мільёнаў у дзяржаве Рэспубліка Беларусь і 3 мільёны нашых суродзічаў за мяжой. Першы і другі з'езды прайшлі ў 1993 і 1997 гадах. Другі з'езд 4 гады таму быў арганізаваны 27 ліпеня да Дня незалежнасці. Аднак сёлета ў Згуртаванні беларусаў свету «Бацькаўшчына» вырашылі склікаць трэці з'езд на Купалле (па новым стылі), як тое было з першым з'ездам. Дарэчы. Тады і планавалася, што менавіта купальская дата правядзення ўсебеларускіх нацыянальных форумаў мусіць ператварыцца ў традыцыю.

Грамадская арганізацыя Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» ўтварылася напрыканцы 1990 года. Зараз яна складаецца з 6 уласна беларускіх і 59 замежных рэгіянальных структураў. Старшыня Рады арганізацыі – фармальны. Гэта абраная на гэтую пасаду на другім з'ездзе Ганна Сурмач, якая летась эмігравала з Беларусі і ачольвае зараз дыяспарную суполку беларусаў у чэшскай Празе. Выконваючым абавязкі старшыні зараз Валерый Герасімаў. Прэзідэнт Згуртавання – Радзім Гарэцкі.



III з'езд беларусаў свету мае праходзіць пад лозунгам «Беларусь і беларусы на мяжы стагоддзяў». Такім чынам, будзе падсумавана тое, што было, праанalізавана і ацэнена тое, што маем, прадыскутавана перспектыва развіцця краіны. Сярод задачаў з'езда – выбары новага кіраўніцтва ЗБС «Бацькаўшчына» і разгляд праблемаў беларускай дыяспары. Паводле аргкамітэта па правядзенні з'езда, «у сучаснай Беларусі патэнцыял эміграцыі амаль не выкарыстоўваецца. Між тым, больш за чвэрць беларускай нацыі стала жыве ў 73 краінах свету. Беларуская дыяспара актыўна будуе сваё грамадскае жыццё ў замежжы: адкрывае беларускія школы і тэатры, царквы і музеі, выдае газеты і часопісы, арганізоўвае ўласны бізнес...Прадстаўнікі беларускай дыяспары ўзбагачаюць сваімі дасягненнямі культуру і мастацтва, навуку і палітыку многіх іншых краінаў».

Разам з тым у Згуртаванні беларусаў свету адзначаюць, што «спецыфіка сённяшняй сітуацыі ў тым, што беларусы працягваюць масава пакідаць сваю Радзіму з-за эканамічных і палітычных прычынаў», а цяперашні час называюць «неспрыяльным для нашага народа». Нездарма на з'ездзе плануецца абмеркаваць такія надзённыя праблемы нацыянальнага жыцця, як станаўленне Беларусі як суверэннай і незалежнай дзяржавы, правы чалавека, адраджэнне мовы і культуры, стан друкаваных і электронных СМІ.

Відаць, таму Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў настойліва прапаноўваў «Бацькаўшчыне» перанесці дату правядзення з'езда беларусаў свету на восень. Пасля прэзідэнцкіх выбараў. Улады гэтага і не хаваюць: у газеце «Голас Радзімы « намеснік старшыні камітэта па нацсправах Іван Яновіч даводзіць, што з'езд варта перанесці на канец года, «улічваючы спецыфіку 2001 года». Аднак у Згуртаванні было вырашана на тэрміны прэзідэнцкай кампаніі не зважаць і праводзіць з'езд тады, калі таго вымагае статут арганізацыі. Тым больш што трэба абіраць новае кіраўніцтва, бо цяперашняе страціць легітымнасць праз некалькі тыдняў. Па словах І.Яновіча, контраргументы арганізатараў з'езда былі наступныя: «інфармацыя аб даце з'езда ўсім ужо разаслана і традыцыя яго правядзення ў дні купальскага свята непарушная». А паколькі Згуртаванне не паслухалася камітэта, то «гэты з'езд – паседжанне вышэйшага органа кіравання асобнай грамадскай арганізацыі». Намаганні надаць яму статус агульнанацыянальнай, сусветнай, кульмінацыйнай акцыі выглядаюць неабгрунтаванымі прэтэнзіямі». Такім чынам, можна лічыць, што ўлады сваё стаўленне да маючага адбыцца 5-6 ліпеня з'езда беларусаў свету агучылі. Можаце ўявіць сабе, як будзе асвятляць яго адыёзнае беларускае тэлебачанне.

Дзяржкамітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў незадаволены дзейнасцю ЗБС «Бацькаўшчына», пачынаючы ад другога з'езда беларусаў свету з ягоным, па словах І.Яновіча, «дэструктыўным зместам і адкрытай заявай кіраўнікоў «Бацькаўшчыны» аб апазіцыйным характары адносінаў да кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь». Ён кажа, што чатыры гады назад на з'ездзе «момантамі сітуацыя наогул была непадкантрольнай». Непадкантрольнай каму?

Большасць дэлегатаў таго з'езда выступіла з асуджэннем эканамічна-палітычнага курсу цяперашняга рэжыму, але з купкай беларускіх замежнікаў, пераважна з блізкага замежжа, была зарганізаваная паказальная сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам. У выніку беларуская дыяспара за мяжой жыве ва ўмовах расколу па палітычных поглядах. Пры гэтым раскол культывуецца менавіта беларускімі ўладамі: са словаў прэзідэнта «Бацькаўшчыны» Радзіма Гарэцкага, дзяржава дае дапамогу толькі тым суполкам, якія падтрымліваюць палітыку А.Лукашэнкі. Потым было абвешчанае пра стварэнне альтэрнатыўнай ЗБС «Бацькаўшчына» Міжнароднай асацыяцыі «Святло Радзімы», якая мусіць аб'ядноўваць беларусаў замежжа. Але ў Згуртаванні беларусаў свету кажуць, што не ведаюць нават, дзе месціцца штаб-кватэра гэтай арганізацыі. У наступным годзе маюцца намеры правесці Кангрэс суайчыннікаў. А пакуль што намеснік Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Іван Яновіч у «Голасе Радзімы» намякае беларускім аб'яднанням замежжа, што, маўляў, не варта прыязджаць на з'езд, бо гэта нібыта апазіцыйная акцыя.

Дарэчы, мерапрыемства гэтае Згуртаванне беларусаў свету, у адрозненне ад папярэдніх з'ездаў, ладзіць самастойна, без удзелу дзяржавы. Не выключана, што, як гэта ўжо было ў 1997 годзе з другім з'ездам, узнікнуць праблемы з арэндай памяшкання. Ініцыятары III з'езда беларусаў свету хочуць правесці яго ў цэнтры сталіцы, хоць у запасе трымаецца варыянт ДК «Сукно». Могуць быць іншыя перашкоды і правакацыі. Тады ўлады толькі лішнім разам пакажуць 500 дэлегатам з'езда беларусаў свету сваё недэмакратычнае аблічча.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

ЦАРКВА

## Наказание за вольномыслие

За нарушение иерейской присяги и ряда церковных правил настоятель Свято-Георгиевской церкви села Заболотье Смолевичского района священник Леонид Пляц и настоятель Минского Свято-Троицкого прихода священник Владимир Ковальчик освобождены от должностей настоятелей. Об этом БЕЛТА 20 июня сообщила пресс-служба Белорусского Экзархата.

Столь строгая мера последовала за раскольнические действия и соблазн паствы, говорится в пресс-релизе. Накануне отлучения, 19 июня, собрание духовенства Минской епархии обратилось к заблуждающимся пастырям с Соборным увещеванием, в котором были последовательно разъяснены их заблуждения. Однако убедившись, что священники Леонид Пляц и Владимир Ковальчик продолжают придерживаться своих заблуждений, Митрополит Минский и Слуцкий Филарет, Патриарший Экзарх всея Беларуси вручил им соответствующие указы о запрещении в священнослужении.

Теперь бывшие настоятели Свято-Георгиевского и Свято-Троицкого приходов не имеют права совершать богослужения и таинства, исполнять требы и носить священнический крест вплоть до раскаяния. В случае, если они не подчинятся и продолжат священнодействовать, то будет решаться вопрос о лишении их сана.

Тем временем в Свято-Георгиевский приход, наиболее пострадавший от действий своего бывшего настоятеля, временно назначен протоиерей Георгий Латушко. Минский Свято-Троицкий приход пока является вакантным.

# Темница разума с портретом патриарха

*В Минске на улице Луначарского есть дом улучшенной планировки, построенный некогда для партийной полуэлиты. Первый его этаж в атеистические времена занимала какая-то контора, спасавшая народные ремесла. В первые постсоветские годы, когда митрополит Филарет оказался народным избранником, ремесленная контора куда-то съехала, а помещение получил магазин «Православная книга». Огненная цветавывеска с восьмиконечным крестом, видная за километр, приглашает посетить сей кладезь истины.*

Путь к «Православной книге» от пл. Якуба Коласа подобен пути на Голгофу — полверсты в гору по дорожкам и каменной лестнице. Но человеку, в душе которого не пылает огонь великодержавного шовинизма, имперской и монархической ностальгии, лучше в этот элитный магазинчик не заходить. У него надолго разрушится душевный покой.

Просторные сени перед торговым залом отданы благолепному собранию картин религиозного содержания. Естественно, что тут вознесены под потолок погрудные портреты патриарха Алексия II и назначенного им в Беларусь экзарха владыки Филарета. Без благословения последнего портреты столь высоких церковных чинов в стенах торгового заведения появиться не могли. Не мог появиться без экзаршего одобрения и соседствующий с портретом патриарха диптих под названием «**ВОТ СВОБОДА И ДЕМОКРАТИЯ В ДЕЙСТВИИ**», на которой изображены Христос в момент суда и толпа иудеев, которые требуют «Распни его, распни!». Все это и написано русским языком прямо по живописи, чтобы никто не усомнился **во вреде демократии**. Еще одно огромных размеров полотно запечатлило миг получения святым Дмитрием Донским благословения на битву с басурманами. Святая Ефросинья Полоцкая оказалась в темном углу. Почетное положение в этом идеологическом отделе магазина занимает огромный стенд, с копиями газетных публикаций, посвященных российским святым XX века, среди которых центральное место отведено последнему русскому царю Николаю II.

В галерейке, которая ведет в торговый зал, выставлена коллекция произведений религиозного искусства, так сказать, на архитектурные сюжеты. Серия работ так и называется — «Памятники русского зодчества». Есть тут достаточно православных храмов Беларуси, но более других впечатляет «**Новогрудок. Руины замка**» из названной же серии с пояснением — «**Золотое кольцо России**». Со столь откровенным циничным пониманием истории Беларуси на других публичных выставках встретиться не удастся. Только на территории, опекаемой вниманием и заботой князей Русской православной церкви.

Непосредственно в зале для торговли на продажу одеяния для священнослужителей, иконы, люстры и т. д. В полумраке под звуки церковного пения покупатель найдет на прилавке и широкий выбор и теологической литературы, особенно много тут красочных изданий Библии для детей, по которым юные души должны приобщаться к православной вере. Особый стол и стул отведены тем посетителям, которые хотят подписаться на специальных листах о желании ввести в школах «закон Божий». Плакат сообщает, что притом эти требования будут переданы властям.

А соседствуя с детскими религиозными изданиями, лежит журнального типа публицистический альманах «Православие или смерть?». Цена - 380 рублей.




Название публицистического альманаха привлекает таинственно-тревожной двусмысленностью: кому смерть — тем, кто не примет православия, или вообще лучше смерть, если его не примет человечество? Номер посвящен восхвалению «Черной сотни», ее главным деятелям, разбору ее исторических ошибок, программных документов и опровержению черных дел «сотни», которые названы «мифом». Естественно, культ царя-мученика нашел место и на страницах бюллетеня, где повествуется о его поддержке «Черной сотни» как материальной, так и отечески-духовной. По отношению к евреям в статье «Лучшие сыны русского народа» есть немало оскорбительных цитат, но особенно, надо думать, умиляют сердца современных черносотенцев пассажи вроде следующего: «Для непредвзятого исследователя ясно, что еврейские погромы возникали стихийно. Это был народный ответ на активное участие евреев в революции». Нет смысла оспаривать откровенное вранье, но несколько показательных цифр из белорусской истории того года, который был отмечен Кровавым воскресеньем и многочисленными расстрелами по царскому приказу (около 15 тысяч человек), стоит привести. В Минске 18 октября расстрелян митинг — 80 человек насмерть, 250 раненые. В тот же день такой же расстрел случился в Витебске. «Верные трону» люди из «Окраинного союза русских людей» несколько дней спустя пошли выпускать пар. 23 октября православным духовенством и «Черной сотней» организован погром евреев в Полоцке. На их оборону выступили рабочие дружины. Тогда на рабочих выслали полицию и две роты солдат. Два десятка рабочих погибли в бою. Через два дня «Черная сотня» устроила погром в Орше. Против погромщиков выступили эсэровские боевики. В стычках с погромщиками погибло 32 дружинника. Назавтра «Черная сотня» громила еврейские дворы в Мозыре.

Собственно, дело не в количестве погромов и жертв, пафос бюллетеня устремлен в более «высокие» сферы — в необходимость возрождения «Союза русских людей» под лозунгами православия, народности и современно понимаемого самодержавия. Дух имперского шовинистического сознания исключает из реальной жизни все иные национальные образования, кроме национального русского.

Издатели этого ностальгического бюллетеня хорошо сознают, что нарушают законы и конституционные запрещения о разжигании национальной и религиозной розни. По этой причине в «Православии или смерти» отсутствуют необходимые издательские и полиграфические сведения. Тем не менес, наш Госкомпечати делает вид, что не знает, не видит, не слышит. Не счесть предупреждений посылал наш Госкомпечати нашим негосударственным газетам и журналам. Даже провинциальную «Провинциалку» разглядели в полесской глубинке и организовали цензурное давление. А против «Черной сотни» председатель Госкомпечати М.Подгайный и его подчиненные молчат, как немые. Или боятся, что погромят, выкинут из кабинета? Или думают так, как написано в «Черной сотне».

Трудно оспорить, что у нас создан климат благоприятствования для торговли антиконституционной шовинистической литературой.

Впрочем, могут быть и добрые последствия от экскурсии в эту темницу разума под названием «Православная книга». Нефундаменталист и нечерносотенец из посещения этого подобия средневековой пещеры вынесет понимание, что слова о Белорусской православной церкви — болтовня для наивных верующих. В реальности существует «Золотое кольцо России», внутрь которого помещены и мы, новомученики во главе с царем, желанная новая «черная сотня». На каноническої территории РПЦ, как называет патриарх Алексий II Беларусь, — мы списаны с национального учета.

**Павел БАРАНОВСКИЙ**

